ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 9 (2307) 4 сакавіка 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

*ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Максіма ГАРЭЦКАГА*






**Беларусь адзначыла 100-гадовы юбілей Максіма Гарэцкага, зоркі першай велічыні ў нашай нацыянальнай літаратуры. І як жа мала ведалі мы да апошняга часу пра гэтага выдатнага пісьменніка, класіка беларускай літаратуры, які стаўся ахвярай сталінізму і загінуў удалечыні ад Бацькаўшчыны, якой прысвяціў усё сваё жыццё і сваю творчасць.**

**НА ЗДЫМКУ: мемарыяльная дошка, устаноўленая ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі ў дні святкавання юбілею Максіма ГАРЭЦКАГА.**

*(Аб святкаванні юбілею М. Гарэцкага расказваецца ў матэрыяле "Скарбы яго жыцця", змешчаным на 6-й стар.).*

**ЗАКОН АБ МОВЕ І БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА**

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ДЗІЦЯЧАЯ КАЗКА?

Помніцца, прыкладна праз год пасля пачатку гарбачоўскай перабудовы любімым пытаннем журналістаў да інтэрв'юіруемых было такое: "Што дала перабудова асабіста вам?" Калі такое пытанне я задала сабе самой, адказ знайшоўся хутка — кнігі. Магчымасць прачытаць забароненыя да гэтага творы М.Гарэцкага, дзённік Б.Мікуліча, "Тутэйшыя" Я.Купалы, "Архіпелаг ГУЛАГ" А.Салжаніцына, "Рэквіем" Г.Ахматавай, "Акаянныя дні" І.Буніна і многае іншае з бясцэннай літаратурнай спадчыны, якая раней была даступная нават "негру старэчых гадоў", але толькі не тым, пра каго і для каго гэта пісалася. На часопісы, у якіх друкаваліся гэтыя творы, у бібліятэках існавала доўгая чарга, а кнігі адразу ж раскупляліся і зачытваліся да дзірак.

Гэта быў сапраўды "кніжны бум", калі выдавецтвы не паспявалі друкаваць, а тыражы часопісаў няўхільна раслі. Але ж напаткаўшая нас свабода, як, дарэчы, і любая з'ява, мае звычку паварочвацца да людзей рознымі бакамі, і профіль яе часам аказваецца менш прывабным, чым фас. У шматлікіх кніжных камерцыйных кіёсках пачалі з'яўляцца першыя ластаўкі наступаючага рынку. З-за адсутнасці лепшага самым папулярным бестселерам эпохі ранняй перабудовы стаў падручнік Ігара Кона "Увядзенне ў сексалогію". Але ж здаўна-даўён вядома, што друкаванне кніг — гэта такая ж прыбытковая справа, як і друкаванне грошай, і вельмі хутка наш згаладалы кніжны рынак пачаў энергічна насычацца. Дэтэктывы Чэйза, Агаты Крысці і Сімянона, выдадзеныя прыватнымі і дзяржаўнымі выдавецтвамі, нягледзячы на высокія цэны, паглыналіся чытацкай масай, як кроплі дажджу распаленай пустыняй. Тым часам разнастайныя сумесныя, малыя і іншыя прадпрыемствы і фірмы паступова станавіліся на ногі і, хаця вяліся бясконцыя размовы пра дэфіцыт паперы, бесперабойна друкавалі шматтомныя прыгоды неўміручай Анжалікі і рабыні Ізаўры, цешылі чытачоў таксама фантастыкай, жахамі і эротыкай, якая часам плаўна пераходзіць у парнаграфію. Што ж, мусіць, гэта заканамерна, і такая літаратура сёння для людзей нешта накшталт наркотыка. Цяжка, напэўна, пасля кашмараў рэальнага жыцця прыйсці дамоў і адкрыць "Прыніжаных і зняважаных" Дастаеўскага. Але ж заўсёды ў цяжкія часы, калі трэба было знайсці адказы на самыя важныя пытанні быцця, людзі звярталіся за парадай да пісьменнікаў.

А што ж дзяржаўныя выдавецтвы? Дзе наша родная беларуская літаратура і як адчувае сябе нацыянальная кніга ў новых эканамічных умовах? Штосьці мне не даводзілася бачыць твораў Кузьмы Чорнага, Янкі Купалы, Івана Мележа ці Янкі Брыля ў камерцыйных кіёсках. Каб знайсці адказы, я адправілася туды, дзе, на маю думку, праблем з беларускай кнігай быць не магло, дзе заўсёды ў першую чаргу з'яўляліся новыя беларускія выданні ад класікаў да кніг пачаткоўцаў, куды трапляла ўсё, што друкавалі беларускія выдавецтвы, — у "Кнігарню пісьменніка". І вось што расказала мне Галіна Лаба, намеснік дырэктара магазіна.

— Зараз многія кніжныя магазіны беларускую літаратуру проста не заказваюць. Ім гэта нявыгадна. Куды больш зручна адкрыць у сябе камерцыйны (ці нават валютны) аддзел і гандляваць парфумай, абуткам. З кніг перавага аддаецца дэтэктывам і фантастыцы — яны прыносяць найбольшы прыбытак і хутчэй раскупляюцца. Мы ж робім усё магчымае, каб па-ранейшаму прадаваць толькі кнігі пераважна беларускія. І зноў сутыкаемся з цяжкасцямі. Мы заказваем выдавецтву кнігу з разлікам на тое, што ёю будуць гандляваць і іншыя магазіны горада, аднак яны, у сваю чаргу, заказваюць усяго па 5—10 экземпляраў выдання на беларускай мове. Таму мы за тыдзень прадаём столькі, колькі ў ранейшых умовах хапіла б на год. Да таго ж, паступова змяншаюцца тыражы беларускіх выданняў. Так, "Гісторыя беларускай літаратуры" Максіма Гарэцкага выйшла тыражом 5 600 экземпляраў на ўсю нашу незалежную Беларусь. Тры тысячы экземпляраў заказала наша кнігарня. Але ж паколькі да нас ідуць усе, хто цікавіцца беларускай літаратурай: студэнты, школьнікі, інтэлігенцыя — за месяц мы практычна ўсё распрадалі. Ва ўсіх цывілізаваных краінах, калі кніга карыстаецца попытам, адразу ж друкуюць яшчэ адзін тыраж. У нас, на жаль, такой практыкі няма. У мінулым годзе мы атрымалі вельмі мала назваў кніг, планы карэкціраваліся, тэрміны выдання пераносіліся. У апошні час вельмі мала атрымліваем кніг ад выдавецтва "Юнацтва", трошкі больш дае "Мастацкая літаратура".

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## З НАШАЙ ПОШТЫ

# УРЭЗВАЕМ ДУШЭЎНЫ СВЕТ

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя!

Выраішыў падзяліцца сваімі меркаваннямі па пытаннях нацыянальнага адраджэння.

Менавіта ўсеагульная нацыянальная адукацыя можа быць надзейным сродкам адраджэння і ўмацавання свядомасці свайго народа. Калі мы звернемся да вопыту брацкіх школ на Беларусі, то заўважым, што яны паспелі шмат зрабіць у супрацьстаянні каталіцызму і апалячванню. Па сваёй прыродзе брацкія школы з'яўляюцца дэмакратычнымі. За свой кошт яны вучылі і бедных, і багатых, прычым навучанне і выхаванне вялося на роднай мове.

Напрыклад, педагог-гуманіст Каменскі з усіх складаемых духоўнай спадчыны вышэй за ўсё цаніў роднае слова. На роднай мове, лічыў ён, лепш і хутчэй засвойваюцца ўсе прадметы ў школе. Школу роднай мовы ён параўноўваў з летам, яго спелымі каласамі і некаторымі ранні́мі пладамі, а "матчыну школу" — з красамоўнай вясной, упрыгожанай пупышкамі і кветкамі розных водараў.

Нам трэба вучыцца выхоўваць нашых дзяцей з малых год нацыянальнай самасвядомасці. Ім трэба чытаць фалькпорныя творы, байкі, казкі, легенды, паданні, апавяданні пра жывёльны і раслінны свет Беларусі. Лічу, што менавіта чытанне і расказванне дзецям твораў фальклору, блізкага да ўмоў самога акаляючага жыцця, лепш і хутчэй развівае ў іх звычкі па аваподанні роднай мовай.

Нормай для складання правілаў новай мовы павінна быць раней вывучаная ў маленстве родная мова. Калі мы ўсур'ёз імкнёмся да рэальна суверэннай адукацыі, якая павінна стаць адлюстраваннем гісторыі і культуры, увасабленнем спецыфікі нацыянальнага жыцця беларусаў, то гэта магчыма правесці ў жыццё толькі па кніжках і падручніках на роднай мове, якія нам, як паветра, неабходна ствараць напрыканцы XX стагоддзя. Без кніг-чытанак, без навуковых кніг на роднай мове дзіця не зможа навучыцца думаць, размаўляць, пісаць на ёй.

А беларускіх кніжак у нас якраз і не хапае, а калі яны ёсць, то дрэннага зместу і якасці. Маўляў, не хапае паперы. Але ж паперы хапае на фантастыку і дэтэктывы, хапае яе і на шматлікую парнаграфічную прадукцыю, якая запаланіла нашу Беларусь.

Нам, беларусам, трэба пазбаўляцца ад шырока распаўсюджанага нігілістычнага погляду на родную мову, а значыць і на сапраўдную нацыянальную школу. Чым раней мы забяспечым школы беларускай кніжкай, тым хутчэй пяройдзем і на нармальнае выкладанне па-беларуску. У пытаннях выдання падручнікаў і дапаможнікаў на беларускай мове неабходна зыходзіць са станоўчага вопыту выдання такой літаратуры і беларусізацыі 20-х гадоў, калі яна была аб'яўлена "ўдарнай справай" дзяржаўных і партыйных органаў, Наркамата асветы Беларусі.

Мы напрыканцы XX стагоддзя яўна адстаём ад сваіх продкаў часоў Ф.Скарыны і С.Буднага, якія так дбалі пра заснаваную на этнакультурных каштоўнасцях беларускага народа адукацыю. Нездарма пры параўнальным аналізе тагачасных адносін грамадства і асветнікаў на землях Беларусі да роднай мовы і падручнікаў на ёй вельмі моцна пераконваешся, што пакінутая імі педагагічная спадчына надзвычай каштоўная для нас, нашчадкаў, і можа з'яўляцца прыкладам гуманістычнага стаўлення да роднага слова і нацыянальнай школы. Нашы далёкія продкі навучыліся не толькі друкаваць добрыя кніжкі, але і будаваць сістэму народнай адукацыі на цвёрдым нацыянальным падмурку.

Сёння ў галіне народнай адукацыі, як і ў іншых сферах жыцця рэспублікі, набірае размах беларусізацыя, робяцца першыя канкрэтныя крокі па стварэнні нацыянальнай школы, зусім правамерна сцвярджаюцца прыярытэты роднай мовы ў школе і грамадстве.

Рашуча не згодны з думкай аб ушчамленні рускай мовы, якое быццам бы ўчыняецца ў нас. Калі і ёсць гвалт, дык над роднай мовай. Менавіта руская мова чамусьці ў суверэннай Беларусі ўсё яшчэ адчувае сябе поўнай гаспадыняй, а беларуская — на правах Папялушкі. Руская мова пусціла ў нас надзейныя карані, бо належыць нацыі, эканамічна больш магутнай і шматлікай, чым наша.

Час на выкладанне гісторыі былога СССР ці геаграфіі ў сучаснай беларускай школе значна перавышае час на гісторыю і геаграфію суверэннай Беларусі. Прыкра, што апошнія два прадметы яшчэ і сёння ў школах рэспублікі выкладаюцца на рускай мове.

Нам неабходна нарэшце цалкам у школах аддаць перавагу нацыянальнай мове, пачынаючы з дзіцячых садкоў і пачатковых класаў. Улічваючы тое, што мы, беларусы, амаль поўнасцю жывём усё ж такі ў рускім моўным асяроддзі, лічу, замест рускай мовы ў 1—4 класах трэба ўвесці адну з замежных (нямецкую ці англійскую як найбольш істотныя для нашага цывілізаванага развіцця).

Калі мы сапраўды хочам стварыць нацыянальную школу, то адным з крокаў да гэтага ёсць выкладанне замежных моў у нашых школах на аснове беларускай. Тады б мо меней было ў нас перакладаў з замежных моў на нашу праз пасрэдніцтва рускай, з чаго дасціпна неяк пасмяяўся Расул Гамзатаў, будучы аднойчы ў Мінску, маючы на ўвазе пераклад беларусамі яго твораў з аварскай. Тады б не заяўлялі прадстаўнікі нашага ўрада ў Навагрудку, што для палякаў Міцкевіч тое ж, што для беларусаў — Пушкін...

Спашлюся на аўтарытэт слыннага сына нашага народа, які, на жаль, пакінуў Бацькаўшчыну на 26-м годзе жыцця. М.Багдановіч пісаў: "Устраняючы беларускую мову са школы, мы вядзем да растраты вынікаў аграмаднай, шматвяковай духоўнай работы цэлага народа, збіваем думку дзіцяці са звыклых псіхалагічных сцяжынак і груба ўрэзваем яго душэўны свет; уводзячы ж мову вялікарускую, мы ставім на яго шляху шэраг перашкод, засяляем яго псіхіку вобразамі змярцвелымі, няяснымі і ў многіх выпадках зусім недарэчнымі. Пры такіх варунках карыстацца вялікарускай мовай замест беларускай можна толькі на шкоду дзіцяці, што асабліва можна сказаць пра першапачатковыя ступені навучання".

Нам трэба пазбаўляцца ад стэрэатыпаў у падыходах да беларускай гісторыі. Апеляцыя да нашага славянскага паходжання і еднасці найчасцей ужываецца імперскай расейскай нацыяй у сваіх карысных інтарэсах.

Славянскі свет наогул моцна падзелены на каталіцкі і праваслаўны, на прыналежнасць да заходняй ці ўсходняй цывілізацый — і з гэтай аб'ектыўнай рэальнасцю беларусам трэба лічыцца. А таму лепей пакінуць нашу псеўдаеднасць з расейцамі этнографам і дыялектолагам, перастаўшы прымушаць айчынных гісторыкаў адшукваць штучнае культурна-гістарычнае адзінства паміж беларусамі і расейцамі, балгарамі і палякамі. Параўнаць нават можна львіцу і камара, але ці трэба гэта для праблем сусветнай цывілізацыі?

Гісторыя Беларусі не можа быць гісторыяй "старэйшага брата".

Справа нацыянальнага адраджэння — пачэсная справа кожнага свядомага беларуса на Бацькаўшчыне, кожнага Інтэлігента з вялікай літары. Каб не атрымалася так, што суайчыннікі за мяжой за XX стагоддзе зрабілі больш для беларускасці, чым мы на роднай зямлі. Нашчадкі нам не даруюць такой абыякавасці і апатыі, хопіць ужо слыць нам у цывілізаваным свеце талерантным племенем, пра існаванне якога мала хто ведае нават з ліку замежных прафесараў.

Жыве Беларусь! А жыць яна можа толькі тады, калі назаўсёды пасеціцца ў нашых сэрцах, а не толькі фармальна ў пашпарце, палкая свядомасць таго, што я — беларус.

**Кастусь КАРНЯЛЮК,**
**настаўнік СШ N 73 г. Мінска.**

## ГЕРАІЗМ ВЫШЭЙШАГА ГАТУНКУ

# НЕ ЎМОЎНА, А ГІСТАРЫЧНА!

У інтэрв'ю газеце "Голас Радзімы" 11 лютага старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч заявіў: "Мы пакуль што толькі ўмоўна існуем як нацыя". Хочацца зразумець сказанае, але ні з гістарычнага, ні з навуковага, ні з бытавога ракурсаў не ўспрымаецца гэтая тэза. А яна ж будзе выкарыстана тымі, хто не ўспрымае праблемы Адраджэння, суверэннасці, дзяржаўнасці беларусаў.

Агульнавядома, што нацыі існуюць аб'ектыўна, гістарычна. Беларуская нацыя належыць да найбольш старажытных. Наша культура, навука развіваліся самабытным шляхам і зрабілі важкі ўплыў на развіццё культур суседніх народаў, беручы і ад іх усё карыснае.

Можна было б так адчувальна не рэагаваць на прыведзеную тэзу, каб у далейшых адказах мы бачылі канкрэтныя дзеянні нашага ўрада па выспяванню беларускай нацыі, па "пераводу" яе ад "умоўнага існавання" да рэальна цывілізаванага. На жаль, мы бачым толькі канстатацыю рэзервацыйнага стану аўтахтоннага насельніцтва Беларусі. Тое, што з перыядычных выданняў, якія атрымліваюць датацыю ўрада, 92 працэнты рускамоўныя, і журналісты "па-руску гавораць і пішуць лепш, чым па-беларуску", вядома ўсім, хто быў у Беларусі нават праездам. Нас, беларусаў, цікавіць, чаму дзяржава фактычна вядзе антынацыянальную палітыку. Лепшы доказ — згаданыя 92 працэнты. Узнікае лагічнае пытанне: навошта беларусам такі ўрад, які не забяспечвае натуральнае, цывілізаванае развіццё нацыі?

Выданне газет для 10 мільёнаў беларусаў на іх роднай мове, забеспячэнне школьнікаў-беларусаў падручнікамі на роднай мове, наогул стварэнне роднамоўнага, нацыянальнага беларускага асяроддзя ў грамадстве, у сродках масавай інфармацыі для ўрада Рэспублікі Беларусь пакуль невырашальная праблема. Улічваючы гэта, можа беларусам звярнуцца за дапамогай да супольнасці свету, да ААН па абароне правоў цэлай нацыі ў адпаведнасці з нормамі і законамі развіцця цывілізацыі, з Дэкларацыяй аб правах чалавека?

Адраджэнне беларускай нацыі патрабуе адкінуць штампы (якімі надзялілі беларусаў нашы заваёўнікі), што ўвайшлі ў шырокі ўжытак і не маюць рэальнага сэнсу. На першае месца ставіцца такая рыса беларусаў, як талерантнасць. Так, беларусы цярплівыя, але гэта цярплівасць не рабская, а цярплівасць гераічная; тры стагоддзі нашы заваёўнікі і з захаду, і з усходу праводзілі палітыку на асіміляцыю беларусаў; імкнуліся і працягваюць сённяператвараць беларуса альбо ў рускага, альбо ў паляка. І вось у гэтых умовах беларус застаўся беларусам. Гэта і ёсць гераізм вышэйшага гатунку. Ганаровымі сведкамі былі, ёсць і будуць нашы духоўныя апосталы сярэднявечча і нашага часу. Нагадаем рух моладзі "Талака" за нацыянальнае Адраджэнне ў 80-я гады і БНФ "Адраджэнне".

Беларуская талерантнасць — гэта пакуль што не асэнсаваная іншымі народамі форма барацьбы на генетычным, інтэлектуальным і фізічным узроўнях за сваё выжыванне і захаванне беларускай нацыі. Наша талерантнасць — гэта не рабская цярплівасць, а мужная высакародная цярплівасць у барацьбе на працягу стагоддзяў, "каб людзьмі звацца". Беларус стагоддзямі ідзе па цярністым шляху да сваёй заранaчкі — незалежнай, поўнасцю самастойнай дзяржавы, у якой жыццё будзе наша — беларускае, як у Расеі — расейскае, у Нямеччыне — нямецкае, у Японіі —японскае. І як мы пабудуем дзяржаву Беларусь, тады нашу нацыянальную рысу — талерантнасць народы свету будуць вывучаць як беларускі феномен (ёсць жа японскі феномен). А пакуль, беларусы, яднайцеся і талерантна змагайцеся за дасягненне палітычнай і эканамічнай свабоды, самастойнасці, беларускай гістарычнай дзяржаўнасці.

**Мікола САВІЦКІ,**
**старшыня Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф.Скарыны, прафесар.**

## РЭЦЭНЗУЕМ ПРАЦЫ СЯБРОЎ МАБ

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ БЕЛАРУСІ: ПОГЛЯД З ЗАХАДУ

На самым пачатку гэтага года ў Англіі выйшла з друку грунтоўнае паліталагічнае даследаванне "Нацыі і палітыкі ў дзяржавах мінулага СССР". Кніжка падзелена на самастойныя раздзелы, у кожным з якіх аналізуецца палітычнае становішча асобных нацый. Раздзел, прысвечаны Беларусі, напісаны прафесарам палітычных навук Каліфарнійскага універсітэта Майклам Урбанам і шырока вядомым амерыканскім беларусам доктарам Янкам Запруднікам. Яго назва — "Беларусь: доўгі шлях да нацыянальнага станаўлення".

На пачатку раздзела аўтары спыняюцца на гісторыі станаўлення нацыянальнай ідэі на Беларусі, сцвярджаюць, што багатая гісторыя нашага краю па-рознаму інтэрпрэтавалася ў залежнасці ад таго, хто пра яе пісаў: палякі, літоўцы, рускія ці самі беларусы. Аўтары пішуць, што да пачатку XX стагоддзя новая беларуская культура ўзрастала пераважна на сялянскім грунце. Коратка спыніўшыся на рэвалюцыйнай па значэнню ў гісторыі беларускага народа дзейнасці газеты "Наша ніва" і Беларускай Сацыялістычнай Грамады, Майкл Урбан і Янка Запруднік адзначаюць, што кульмінацыяй адраджэнскага руху ў Беларусі тады было абвяшчэнне 25 сакавіка 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікі. З жалем аўтары канстатуюць, што абвяшчэнне БНР не знайшло моцнай падтрымкі сярод шырокіх колаў насельніцтва Беларусі, а тагачасныя буржуазія і інтэлігенцыя ў большасці сваёй цураліся беларускіх ідэй.

Час існавання БССР і Заходняй Беларусі аўтары ацэньваюць ва ўсёй яго супярэчлівасці. З аднаго боку, вынішчэнне ўсяго беларускага на тэрыторыі Польшчы, з другога, непаслядоўная палітыка — спачатку беларусізацыі, а пасля (у гады сталінскіх рэпрэсій) русіфікацыі — на абшарах БССР. У час другой сусветнай вайны, падкрэсліваюць аўтары, Беларусь панесла жахлівыя страты. На яе тэрыторыі рэжым нямецкай акупацыі быў асабліва жорсткі. Пасля вайны Беларусь, дакладней БССР, станоўча адрознівала ад іншых рэспублік тая акалічнасць, што пануючыя колы (партыйна-дзяржаўная наменклатура) былі выхадцамі з самой Беларусі, пераважна былыя партызаны. Аднак палітыка, якую яны праводзілі, была палітыкай русіфікацыі. М.Урбан і Я.Запруднік падрабязна апісваюць працэс палітычных зрухаў, якія распачаўся на Беларусі ў часы перабудовы і які ўсе мы добра ведаем. Асаблівая ўвага звяртаецца на ролю БНФ, такіх дзеячаў, як Васіль Быкаў і Зянон Пазняк.

Аўтары ўстрымліваюцца ад якіх-небудзь прадказанняў пра будучыню Беларусі. Але, на іх думку, тое, што зроблена за апошнія гады ў нашай дзяржаве, з'яўляецца значным дасягненнем беларускага народа.

**Юрась ЖАЛЕЗКА,**
**супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны.**

*X З'ЕЗД БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ У АЎСТРАЛІІ*

# МЭТА – СВАБОДА І НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Днямі рэдакцыя атрымала ліст ад нашага суайчынніка Паўлюка Дуброўскага з Аўстраліі, дзе аўтар расказаў пра чарговы з'езд беларускіх арганізацый, якія існуюць на шостым кантыненце. З ягонага расказу вынікае, што...

...з 19 па 21 студзеня 1993 года ў Беларускім грамадскім доме, што знаходзіцца ў Мельбурне, адбылася гэтая важная ў жыцці аўстралійскіх суайчыннікаў падзея. У з'ездзе ўдзельнічалі прадстаўнікі 9 нацыянальных асяродкаў, прыналежных да Федэральнай Рады Беларускіх арганізацый Аўстраліі.

Напачатку з'езд благаславіў айцец А. Грыцук. Са справаздачай аб двухгадовай працы выступіў старшыня ўправы Выканаўчага Камітэта Рады А. Груша. Прамоўца асабліва выдзеліў такі накірунак дзейнасці беларускіх асяродкаў, як збор фінансавых сродкаў на дапамогу ахвярам чарнобыльскай катастрофы. Гэтая дабрачынная акцыя праводзілася ў некалькіх штатах краіны. У Сіднеі яе ажыццяўлялі М. Зуй, М. Ціхан, Плахоцкі, М. Лужынскі, у Мельбурне – П. Гуз, У. Сідлярэвіч, А. Груша і Н. Груша, у Пэрце – Беларускае аб'яднанне і спадар М. Раецкі, у Адэлаідзе – айцец М. Бурнос з Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы і Беларускае аб'яднанне. Гурток "Каліна", які дзейнічае пры БАПЦ, зладзіў у Мельбурне вечарыну. Увесь прыбытак ад яе, які склаў 2 тысячы долараў, ён накіраваў у фонд дапамогі Чарнобылю, створаны пры Федэрацыі. У выніку гэтага руху сабрана 37 тысяч долараў, якія затым былі пераказаны Гомельскай абласной бальніцы.

Сход заслухаў справаздачы адказных асоб управы і дэлегатаў. А таксама абраў управу Федэрацыі на наступныя два гады, даручыўшы выконваць гэтыя абавязкі старому яе складу: старшыні А. Грушы, сакратару П. Гузу, скарбніку У. Сідлярэвічу.

X з'езд беларусаў Аўстраліі прыняў выніковы дакумент – рэзалюцыю. У першым яе пункце гаворыцца: "Для ратавання роднай мовы нашага народа неадкладна ўвесьці беларускую мову ва ўсіх навучальных установах Рэспублікі Беларусь". Беларуская мова, лічаць нашы суайчыннікі, павінна быць дзяржаўнай ва ўсіх адміністрацыйных установах, цэрквах і беларускім войску. У ім, войску, трэба паскорыць працэсы арганізацыі. У рэзалюцыі адзначаецца неабходнасць правядзення рэформаў у міліцыі, банкаўскай сістэме, замены савецкіх назваў гарадоў і вуліц на беларускія, тэрміна "савет" на "рада". Землякі-беларусы ў Аўстраліі выказваюцца за неабходнасць звароту беларускіх этнічных земляў у састаў беларускай дзяржавы, увядзенне прыватнай уласнасці на зямлю, адраджэнне беларускай нацыянальна-культурнай спадчыны, хрысціянскага і іншых веравызнанняў. Яны заклікаюць падтрымліваць дзейнасць БНФ і Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". А са свайго боку Федэрацыя будзе "рабіць захады, каб аўстралійскія дзяржаўныя ўстановы і прыватныя прадпрыемствы аказалі гуманітарную дапамогу беларусам, ахвярам чарнобыльскай атамнай катастрофы".

Матэрыялы з'езда і допісы П. Дуброўскага паказваюць, што нашы суродзічы на аўстралійскім кантыненце не застаюцца абыякавымі да тых працэсаў, што маюць месца на Бацькаўшчыне, але, канешне, прапускаюць іх пры гэтым праз свае ўласныя погляды, свядомасць, даючы адпаведную трактоўку.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

**ПАЗІЦЫЯ ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"**

# МЫ НЕ СХІЛЬНЫ ПАНІКАВАЦЬ

13 лютага на пасяджэнні Сойма Беларускга народнага фронту "Адраджэнне" была прынята Заява аб няўдзеле гэтай палітычнай арганізацыі ў Першым з'ездзе беларусаў свету. Заява была перададзена ў сродкі масавай інфармацыі, па некалькі разоў на дзень паўтаралася па тэлебачанні і радыё пад гучна-сенсацыйным анонсам "Скандал вакол з'езда". Ва ўсім гэтым нельга не адчуць непрыхаванай радасці сіл выразнага накірунку, для якіх няўзгодненасць дзеянняў і непаразуменні паміж беларускімі патрыятычнымі арганізацыямі – як бальзам на раны! Таму зразумела іх жаданне паўплываць на грамадскую думку, падаць згаданы факт як штосьці незвычайнае, больш значнае, чым, скажам, Першы сход беларусаў блізкага замежжа, які адбыўся ў снежні мінулага года і некаторымі сродкамі масавай інфармацыі быў проста праігнараваны. Цяпер жа, усчынаючы валтузню вакол падзеі, якая датычыць унутраных спраў Народнага фронту і, зразумела, не можа паўплываць на ўжо прынятыя пастановы Рады і Управы ЗБС "Бацькаўшчына", на ўхвалы Першага сходу беларусаў блізкага замежжа і XX Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі і Канады – гэтага найбольш прадстаўнічага форума далёкага беларускага замежжа, перакасаваць жаданні тысячаў беларусаў з розных канцоў свету, якія адчуваюць душэўную патрэбу ў моцнай лучнасці з Бацькаўшчынай і жадаюць удзельнічаць ва ўсебеларускім з'ездзе, пра што нельга было і марыць падчас панавання таталітарнай камуністычнай імперыі...

Так, ва ўсіх нас жыве трывога перад магчымай яе рэанімацыяй, і кожны шчыры беларус не можа не адчуваць небяспекі аднаўлення асноўнай палітычнай і ідэалагічнай сілы збанкрутаванай сістэмы – КПСС, паслухмяным прыдаткам якой была КПБ. Аднак мы не схільны ўслед за Народным фронтам панікаваць з выпадку адмены Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь часовай забароны КПБ, бо гэта і так не перашкаджала камуністам аб'ядноўвацца ў свае арганізацыі, толькі што пад іншымі назвамі. Ставіць скліканне Першага з'езда беларусаў свету, гэтай важнай падзеі агульнанацыянальнага значэння, у непасрэдную залежнасць ад прынятага рашэння наконт Камуністычнай партыі – ці не занадта вялікі гонар для іх, ці не завельмі вялікая ўступка нашым супраціўнікам?!

Менавіта сёння, у складаных умовах барацьбы за незалежнасць, за дзяржаўны суверэнітэт Беларусі, за нацыянальнае Адраджэнне, патрэбна яднанне беларусаў свету, Бацькаўшчыны з дыяспарай.

Лічым, што з'езд беларусаў свету, па-першае, павінен паказаць, наколькі афіцыйнымі органамі Рэспублікі Беларусь выкананы ўхвалы і пажаданні Першага сходу беларусаў блізкага замежжа і, па-другое, выпрацаваць такія рашэнні, што былі б істотным гарантам нашага Адраджэння, выбраць прадстаўнічы орган, да думкі якога будуць прыслухоўвацца вышэйшая заканадаўчая і выканаўчая ўлады Беларускай дзяржавы.

Шчыра запрашаем да ўдзелу ва ўсебеларускім форуме ўсіх, незалежна ад поглядаў і перакананняў, у кім б'ецца беларускае сэрца, хто стаіць на грунце нацыянальнага Адраджэння, дзяржаўнай незалежнасці адзінай для ўсіх Маці-Беларусі!

### ЗВАРОТ УХВАЛЕНЫ НА ПАСЯДЖЭННІ УПРАВЫ ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА" 17 лютага 1993 г.

**Удакладняем. Першы з'езд беларусаў свету будзе праходзіць у Мінску ў памяшканні тэатра оперы і балета 8—10 ліпеня. Размяшчэнне і рэгістрацыя ў гатэлі "Беларусь" з 5 ліпеня. 6 ліпеня адбудуцца ўрачыстасці ў Нясвіжы і Навагрудку, якія завершацца ўсебеларускім Купаллем, 7 ліпеня адкрыццё Нарачанскага форума для дзяцей і моладзі беларускага замежжа з адпачынкам, навучаннем і экскурсіямі на працягу двух тыдняў па славутых мясцінах Беларусі. Побыт у Беларусі ўдзельнікаў з'езда і форума забяспечваецца. Просьба да беларускіх арганізацый і асоб падаваць заяўкі на ўдзел па адрасу:**

**220053, Беларусь, Мінск, Даўгінаўскі тракт, 52-9. Тэл. і факс: 37-05-44 — Старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Яўген ЛЕЦКА.**

**Намеснік па далёкаму замежжу — Лявон КАЗЫРА — 38-44-37 /х./.**

**Намеснік па блізкаму замежжу — Валеры ГЕРАСІМАЎ — 26-63-52 /х./, 20-10-66 /сл./.**

**ЗБС "Бацькаўшчына" — 27-32-38.**

*НАШ ЧАЛАВЕК НА ФЛАРЫДЗЕ*

# ЯН ПЯТРОЎСКІ – ЛІТАРАТАР, ПЕРАКЛАДЧЫК, ВЫДАВЕЦ



Упершыню пра беларускага перакладчыка і выдаўца з Амерыкі Яна Пятроўскага расказала сваім чытачам беластоцкая газета "Ніва" яшчэ ў 80-х гадах. Гэта было кароткае паведамленне, што жыве на Фларыдзе (ЗША) чалавек, які перакладае на беларускую мову старажытнагрэчаскую літаратуру і выдае кніжкі за ўласны кошт. Хочацца спадзявацца, што з цягам часу і ў нас будзе грунтоўна і глыбока разгледжаны яго жыццёвы і творчы шлях. А пачаўся ён аж 20 студзеня 1905 года ў Слуцку, калі ў сям'і Дзям'яна Адамавіча і Юстыны Андрэеўны Пятроўскіх нарадзіўся сын, якога ахрысцілі Янам. Бацька рана памёр, таму поўным аўтарытэтам і гаспадыняй у доме была маці, а таксама старэйшы брат Апанас. Акрамя яго ў сям'і Пятроўскіх было яшчэ сямёра дзяцей.

У 1919 годзе Юстына Пятроўская разам з сынам і дзвюма дочкамі выехала ў Вільню. У гэты час тут ужо гаспадарылі палякі. Але нягледзячы на цяжкасці, Ян закончыў гімназію, адбыў службу ў польскай арміі.

У 1928 годзе пачынае вучыцца ў Тэалагічнай школе метадыстаў у Клярысаве каля Варшавы. Пасля яе заканчэння працуе год у Варшаве, а ў 1932-м прыязджае ў Дзярэчын (цяпер Зэльвенскі раён). Тут за чатыры гады Ян Пятроўскі яшчэ бліжэй далучаецца сэрцам і душою да свайго народа, чуе родную беларускую мову і песні. Ён назаўсёды захавае любоў да гэтага гістарычнага мястэчка. У першым томе сваіх "Мэмуараў" (ЗША, 1988 год) ён прысвяціў Дзярэчыну вялікі раздзел, які назваў "Дзярэчын – малы Версаль".

У 1936 годзе Яна Пятроўскага пераводзяць у Варшаву, дзе ён служыць пастарам. Але затрымацца там не было мажлівасці: пачынаецца другая сусветная вайна. У сакавіку 1941 года Я. Пятроўскі выязджае ў Германію, пасля ў Аўстралію, а ў 1953 годзе ў Амерыку, дзе і зараз пражывае ў штаце Фларыда ў невялікім горадзе Гейнсвіль.

Яшчэ з юначых гадоў у яго праявілася любоў да вывучэння моў. Пра гэта Я. Пятроўскі напісаў у сваёй невялікай кніжачцы "На васьмідзесятыя ўгодкі" (1985 год): "З пачаткамі расейскае мовы я запазнаўся яшчэ ў Слуцку. Перш, адведваючы Манастырскую школу на Трайчанах, а пазьней два гады хадзіў у Прыходскую школу на Юр'еўскай вуліцы. Польскую мову здабываў у часе фармальнае адукацыі, якая дазваляла мне займаць пазыцыю пастара ў Варшаве ў вадной зь дзьвюх кангрэгацыяў у месьце, як і становішча Сакратара Гадовае Канфэрэнцыі Польскае Царквы Мэтадыстых, будучы выбраным на гэтай жа Канфэрэнцыі ў 1938 г. і зацьверджаны Япіскапам Артурам Дж. Морам.

Нямецкую мову пачаў прысвойваць у сярэдняй школе як прадмет, а пазьней у штодзённым абыходзе, жывучы ў Нямеччыне, а пасьля ў Аўстрыі на працягу чатырнаццаці гадоў. З пачаткамі ангельскае мовы сустрэўся я ў тэалягічнай школе ў Клярысаве, а пазьней адзін год адведваў вядомую ў Варшаве Вышэйшую Школу Ангельскае Мовы, што знаходзілася на пляцу Збавіцеля, якая, наколькі мне вядома, яшчэ і сягоньня там існуе. Украінскі тэкст я чытаю, гэтаксама як і чэскі. Пачаткі лаціны гэтаксама выводзяцца з сярэдняе школы.

Школа беларускае мовы – гэта школа адносна доўгалетняга майго жыцьця. Першым і найлепшым маім прафэсарам гэтае мовы была мая добрая маці гаспадарыня Юстына Пятроўская. Пасьля яе ішлі прафэсары: Р. Астроўскі са сваім правапісам беларускае мовы і Б. Тарашкевіч зь беларускаю граматыкаю і г.д., і г.д..."

Гэта сапраўды так. Дзе б ні знаходзіўся Ян Пятроўскі, з ім заўсёды была яго родная мова, Бацькаўшчына і літаратурная дзейнасць.

Жывучы ў Германіі, у 1949 годзе ён выдае на беларускай мове дзве прыгожыя і арыгінальныя паштоўкі. Адна з іх прысвечана Францыску Скарыну, другая – Дню 25-га Сакавіка.

У 1962 годзе Ян Пятроўскі пачынае выдаваць газету "Сьветач Хрыстовае навукі", апошні нумар якой выйшаў у 1966 годзе. Разам выдадзены 24 нумары.

Але самай вялікай заслугай спадара Я. Пятроўскага з'яўляецца тое, што ён упершыню змог перакласці на беларускую мову і выдаць дыялогі грэчаскага філосафа Платона. У шасці асобных кнігах, якія з'явіліся ў Амерыцы, надрукаваны дыялогі "Абарона Сакратаса", "Крытон", "Файдон", "Сымпазыён", "Іён", "Горгіяс", "Протагорас", "Гіпіяс вялікшы", "Пармэнідэс" і "Політэя", а таксама выйшлі з друку па-беларуску філасофскія роздумы рымскага імператара Марка Аўрэліюса.

У 1989 годзе асобнай брашурай у Гейнсвілі на беларускай мове пабачыла свет праца нямецкага філосафа Карла Вільгельма барона фон Гумбальта (1767-1835) "Унутраная хворма мовы". Яе таксама пераклаў Ян Пятроўскі.

Не кожная дзяржава можа пахваліцца слоўнікам, які сёння ёсць у беларусаў. Маецца на ўвазе двухтомнік "Грэцка-беларускага слоўніка" Я. Пятроўскага.

Сабраў наш суайчыннік і выдаў на эміграцыі і трохтомнік "Лепшых думак чалавека", а таксама іншыя літаратурна-перакладчыцкія працы.

З усіх пералічаных твораў Я. Пятроўскага абмінуць яго "Мэмуары" проста немагчыма. Першы том выйшаў з друку ў 1988 годзе, другі – у 1991-м, а сёлета павінен з'явіцца і трэці. "Мэмуары" ўяўляюць сабой успаміны аўтара аб пражытым. Яны нясуць у сабе пазнаваўчую і фактаграфічную вартасць, а таксама з'яўляюцца багатай крыніцай для тых, хто займаецца і цікавіцца гісторыяй касцёла метадыстаў.

Ёсць у "Мэмуарах" і ўспаміны пра Гальяша Леўчыка і Антона Луцкевіча, каштоўнае апісанне даваенных Слуцка, Дзярэчына, Вільні, Варшавы і іншых мясцін, дзе жыў і бываў наш зямляк...

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## БНР: ДЗЕЛЯ КУЛЬТУРНА-НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ

# III. ТОЛЬКІ РОДНАЯ МОВА МАГЛА ЗРАБІЦЬ ЗРАЗУМЕЛЫМІ ПРОПАВЕДЗІ І МАЛІТВЫ

БЕЗ СТАЛАГА вывучэння мінулага не можа быць пэўнага руху наперад у кожнай галіне культурнай працы. Актыўны ўдзельнік беларускага нацыянальнага руху Яўсей Кангар у кнізе "Белорусский вопрос" адзначаў: "Недалекие политики Интернационала держатся того мнения, что национальный вопрос мешает пролетариату в его борьбе за социалистчиескую революцию. Они хотят доказать, что и религия, и национальное чувство должны быть уничтожены, вытравлены. С этим мнением согласиться нельзя. Развитие здорового национального, как и религиозного чувства, не только не стоит на пути осуществления мирового счастья, но, наоборот, способствует этому осуществлению". Сапраўды, рэлігія заўсёды займае пэўнае месца ў жыцці кожнага карода, большае або меншае, у залежнасці ад канкрэтных гістарычных абставін.

Узровень нацыянальнай самасвядомасці беларусаў у пачатку XX стагоддзя быў адносна невысокім у параўнанні з іншымі народамі Расійскай імперыі: украінцамі, палякамі, фінамі. Даволі часта на пытанне, кім яны сябе лічаць, беларусы адказвалі ў залежнасці ад рэлігійнага веравызнання: "каталікамі" або "праваслаўнымі". Менавіта каталіцызм і праваслаўе ў сілу гістарычных абставін атрымалі найбольшае распаўсюджанне на Беларусі на пачатку XX стагоддзя. Беларуская мова не мела права ўжытку як у касцёле, так і ў царкве. Існуючы стан рэчаў дапамагаў праводзіць, з аднаго боку, апалячванне, з другога – русіфікацыю беларусаў.

Змены ў гэтай сферы духоўнага жыцця пачынаюць адбывацца ў пачатку 1917 года, выкліканыя не ў апошнюю чаргу Лютаўскай рэвалюцыяй.

Менавіта ў той час нацыянальная свядомасць захапіла літаральна ўсе слаі беларускага грамадзянства: мы бачым за нацыянальнай работай многа чынных інтэлігенцкіх сіл. Перш за ўсё мы можам адзначыць удзел у беларускім руху духавенства – гэтай безумоўна вельмі важнай інтэлектуальнай сілы на Беларусі.

Паміж каталіцкімі ксяндзамі беларускі рух зарадзіўся ў Пецярбургскай духоўнай семінарыі і Духоўнай акадэміі, якая рыхтавала святароў для Магілёўскай дыяцэзіі. У пачатку 1917 года ў Мінску на з'ездзе быў заснаваны Саюз ксяндзоў-беларусаў, які налічваў прыкладна 200 чалавек. Сярод іх можна назваць імёны такіх найбольш актыўных дзеячаў, як ксёндз Астрамовіч (паэт Андрэй Зязюля), магістр тэалогіі ксёндз Гадлеўскі (у Міску), ксяндзы Сак, Байко, Лапошка, магістр тэалогіі ксёндз Лісоўскі (у Магілёве), магістр тэалогіі ксёндз Шырокі (у Парафіянаве), доктар філасофіі Бобіч (у Друі), ксёндз Будзька, Жалняровіч, Борык, магістры тэалогіі Цікота, Хведзька, доктар філасофіі Ф.Абрантовіч і іншыя.

25–27 сакавіка 1917 года на з'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску быў створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт. На з'ездзе сярод шэрагу пастаноў была прынята і наступная:

"6) Каб у вучыцельскіх сэмінарыях, а таксама ў духоўных – праваслаўных і каталіцкіх, была ўведзена беларуская мова, літэратура, шырэйшае пазнаньне краю і яго гісторыі". У склад БНК быў абраны сярод 18 чалавек і ксёндз Гадлеўскі. Дзеля выканання прынятых на з'ездзе рашэнняў у пачатку красавіка 1917 года Р.Скірмунт, А.Будзька, П.Аляксюк і ксёндз В.Гадлеўскі ад імя Беларускага Нацыянальнага Камітэта звярнуліся да Магілёўскага арцыбіскупа з наступнымі прапановамі:

1) Завесці ад восені 1917 года ў Магілёўскай семінарыі ў Петраградзе лекцыі беларускай мовы, літаратуры і гісторыі Беларусі;

2) Прыпомніць усяму духавенству на Беларусі яго абавязак: наколькі хопіць сіл і магчымасці, прамаўляць па-беларуску да людзей у навучанні веры ў касцёле і школе;

3) Чытаць па касцёлах усе адозвы вышэйшага духавенства між іншымі мовамі і па-беларуску;

4) Аддаць беларускаму духавенству ўсе касцёлы, якія маюць быць звернуты праз новы ўрад, у некаторых можна было б без ніякіх перашкод адразу завесці беларушчыну;

5) Паручыць ксяндзам заняцца выданнем беларускіх рэлігійных кніжак для касцёла і школы, а таксама беларускай часопісі;

6) Камітэт просіць назначыць на Беларусь ксяндзоў-беларусаў або тых, каторыя ведаюць беларускую мову;

7) Камітэт просіць прычыніцца, каб на Беларусь быў назначаны біскуп-беларус.

Ужо ў 1917 годзе была разгорнута шырэйшая акцыя дзеля завядзення беларускай мовы ў касцёлах. Гэтая акцыя дала добрыя вынікі. Як сведчыў Антон Луцкевіч у Мемарыяле "Аб палітычным палажэнні Усходняе Беларусі" ад 3 красавіка 1918 года, "ужо ў цэлым радзе касцёлаў кажуць казаньня па-беларуску".

8 снежня 1917 года ў Петраградзе пад рэдакцыяй ксяндза Л.Хведзькі выйшаў першы нумар газеты "Крыніца", друкаваны лацінскім шрыфтам. У пачатку 1918 года рэдакцыя "Крыніцы" была перанесена ў Мінск. Пачынаючы з другога нумара, гэтую газету для беларусаў-католікаў рэдагаваў ксёндз Гадлеўскі.

Беларускі нацыянальны рух развіваўся даволі шырока сярод праваслаўнага духавенства. У 1917 годзе ўлетку ў Маскве адбыўся з'езд праваслаўных свяшчэннікаў-беларусаў. Справа ў тым, что падчас эвакуацыі вялікая колькасць святароў з Гродзеншчыны і Віленшчыны апынулася ў Маскве. З'езд, сабраўшы каля 800 праваслаўных святароў, вынес рэзалюцыі ў беларускім нацыянальным духу. Паміж беларускага духавенства пачынае з'яўляцца ўсё больш і больш асоб, якія ўсведамляюць, што не адной толькі цягай да Масквы трэба падтрымліваць на месцы праваслаўе, але што, зразумела, патрэбна ўдзяліць у царкве месца і ўвагу мясцоваму жыццю. Сярод мясцовых асаблівасцей трэба адзначыць беларускую мову, што раней так пільна выкаранялася і абміналася. З мовы і пачалі піянеры беларускай ідэі паміж беларускага праваслаўнага духавенства. У многіх прыходах пачаліся пропаведзі на беларускай мове, якія народ прымаў з вялікай радасцю. Спробы з чытаннем у беларускай мове паказалі, што малітва, прачытаная ў роднай мове, ёсць для вернікаў, якія дагэтуль амаль што механічна навучаліся малітвам у чужацкай мове, шчырым адкрыццём.

Між праваслаўнага духавенства трэба зазначыць работу айца Андрэя Карніловіча, свяшчэнніка Хонаўскай царквы Вілейскага павета, які ўклаў цэлы зборнік пропаведзяў у беларускай мове, і работу айца Іаана Хруцкага, дыякана Лебедзеўскай царквы Вілейскага павета, які шмат працаваў над аб'яднаннем малітваў з перакладамі іх са старославянскай мовы на беларускую, карыстаючыся зборнікамі малітваў у беларускай мове свяшчэннікаў Раманава і Чальцова. У 1918 годзе святар В.Раманаў у Мінску выдаў перакладзеныя на беларускую мову "Першыя малітвы і пазнаньне праваслаўнай веры" аб'ёмам 32 старонкі. Сярод праваслаўнага духавенства можна адзначыць таксама імёны протаіерэяў Кульчыцкага і Корчынскага, святароў Усакоўскага, Разумовіча і Рэпніна.

6 і 7 жніўня 1918 года адбыўся з'езд Дзісенскага Дэканату. На гэтым з'ездзе было пастаноўлена, каб у Дэканаце ўсе парафіяльныя школы былі з беларускай мовай выкладання.

Мітрапаліт Роп, аб'язджаючы касцёлы магілёўскай дыяцэзіі, загадаў, каб ксяндзы, што былі з ім, усюды казалі казанні па-беларуску.

У заходняй частцы Беларусі, у межах "старой акупацыі", на Віленшчыне і Гродзеншчыне, вышэйшае каталіцкае духавенства бараніла перш за ўсё інтарэсы Польшчы. Адміністратары дыяцэзіі забаранялі ксяндзам прамаўляць з амбона да народа на беларускай мове. Паланізатарскую работу аблягчыў той факт, што вялікая колькасць праваслаўнага духавенства, а часткова і ксяндзоў-беларусаў былі эвакуіраваны і вывезены ў час вайны за межы Беларусі. Нягледзячы на цяжкасці, 2 мая 1918 года першы раз у Вільні на свята Божага цела ішла беларуская працэсія са сваёй, з беларускімі надпісамі, харугвай. Беларускія духоўныя песні спяваў хор, арганізаваны таварыствам дзіцячага прытулку "Золак". 24 жніўня 1918 года ў Вільні была заснавана "Сувязь культурна-нацыянальнага Адраджэння беларускага народа". У Выканаўчы камітэт гэтай арганізацыі разам з Вацлавам Ластоўскім, Вінцэнтам Святаполк-Мірскім і іншымі былі абраны ксяндзы Уладзіслаў Талочка і Ян Семашкевіч. Акрамя таго, ксёндз Талочка прымаў актыўны ўдзел у працы таварыства апекі над дзецьмі "Золак".

Народны Сакратарыят БНР добра разумеў ролю рэлігіі ў справе культурна-нацыянальнага адраджэння беларускага народа. Тым больш, што праваслаўныя і каталіцкія святары прымалі самы актыўны ўдзел у нацыянальнай рабоце. Член Мінскага народнага прадстаўніцтва ксёндз В.Гадлеўскі пасля кааптацыі ў склад Рады БНР на працягу 25 дзён узначальваў дзейнасць створанай у маі 1918 года камісіі Рады па справах уцекачоў. У Мінску дзейнічалі мінскае праваслаўнае брацтва, Мінская Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць. Ксёндз А.Аўгусціновіч узначаліў створаную ў Радашковічах мястэчковую Беларускую Раду. Вялікую працу па адкрыццю беларускіх школ, распаўсюджванню беларускай мовы ў касцёлах, заснаванні мясцовых рад на Магілёўшчыне праводзіў ксёндз Аляксандр Астрамовіч (паэт Зязюля). У маі 1918 года ён разам з Насовічам наведаў старшыню Народнага Сакратарыята Я.Варонку. Падчас сустрэчы была дасягнута дамоўленасць аб асігнацыях ураду БНР па справе культурна-нацыянальнага Адраджэння. З ініцыятывы сакратара асветы Я.Смоліча быў выдадзены на сродкі Народнага Сакратарыята "Праваслаўны малітвеннік" для дзяцей. 5 мая 1918 года старшыня Народнага Сакратарыята Язэп Варонка наведаў Архіепіскапа Мінскага і Тураўскага Георгія. Падчас размовы было закранута вельмі важнае пытанне аб рэарганізацыі кіраўніцтва царквой на Беларусі, як незалежнай дзяржаве. Архіепіскап Георгій падтрымаў гэтую прапанову. Акрамя гэтага, ён выказаў жаданне арганізаваць пры падтрымцы старшыні Народнага Сакратарыята Асобую камісію, якая займалася б разглядам пытання аб вяртанні духоўных асоб на тэрыторыю "першай акупацыі" (у Віленскую і Гродзенскую губерні), а таксама аб вяртанні ўсёй царкоўнай маёмасці: царкоўных архіваў, званоў на месцы іх ранейшага знаходжання. Як ужо адзначалася вышэй, неабходнасць вяртання духоўных асоб у межы "старой акупацыі" была даволі вострая. Паланізацыя на Віленшчыне і Гродзеншчыне праводзілася паўсюдна, пры гэтым галоўнымі праваднікамі яе былі рымска-каталіцкія святары. Калі былі адкрыты беларускія народныя школы, лік якіх перавысіў 50 у межах "старой акупацыі", каталіцкія ксяндзы па распараджэнню адміністратара Віленскай епархіі ксяндза Міхалысевіча рашуча адмаўляліся выкладаць Закон Божы на роднай мове вучняў – беларускай. У Вільні некаторыя ксяндзы не прымалі да споведзі бацькоў, дзеці якіх вучыліся ў беларускіх школах. Паміж беларусамі і літоўцамі адбываліся спрэчкі з-за "каталіцкай Беларусі", а менавіта Вільні і яе ваколіц, а таксама Лідскага, Ашмянскага, Свянцянскага і часткі Троцкага паветаў. Літоўцы ўстанавілі своеасаблівы крытэрый для вызначэння нацыянальнасці ў краі. Яны за адзнаку літоўскай нацыянальнасці лічылі каталіцкае веравызнанне і аб'яўлялі літоўцамі ўсіх католікаў, уключаючы сюды і беларусаў, якія моцна трымаліся роднай беларускай мовы.

21 чэрвеня 1918 года падчас сустрэчы Язэпа Варонкі з начальнікам штаба X арміі фон Штапфам была звернута ўвага, што ў правінцыі шмат непаразуменняў выклікаюць адносіны да беларускага пытання польскай інтэлігенцыі. Нямецкія ўлады паабяцалі, што будуць прыняты меры па спыненню польскай прапаганды на Беларусі. Народны Сакратарыят атрымаў ад нямецкіх улад дазвол на пасылку праваслаўных святароў у Заходнюю Беларусь. У чэрвені 1918 года Народны Сакратарыят наведаў протаіерэй І.Карчынскі, які пасля паездкі ў Вялікаросію накіроўваўся ў межы "старой акупацыі" для аднаўлення там праваслаўных прыходаў. Генерал Фалысенгайм даў на гэта сваю згоду. Разам з Карчынскім у Заходнюю Беларусь выехалі протаіерэі: І.Гушкевіч (у Беласток), І.Піліхоўскі (Бельск), М.Вінаградаў (Брэст), П.Травін (Слонім), святары В.Пілінкевіч (Брэст), К.Пілінкевіч (Пружаны), Н.Сабаткевіч (Пружаны), І.Міхайлоўскі (Кобрын), К.Ржэцкі (Ваўкавыск). Архіепіскап Мінскі і Тураўскі Георгій пісьмом на імя Варонкі даў сваю згоду на пераезд святароў з Мінскай епархіі ў Гродзенскую і Віленскую.

З 1 кастрычніка ў Мінску адкрылася каталіцкая духоўная семінарыя. Там выкладаліся беларуская гісторыя, мова і літаратура. Рэктарам духоўнай семінарыі быў назначаны доктар філасофіі Фабіян Абрантовіч, інспектарам – ксёндз Лісоўскі, абодва – шчырыя беларусы. Вялікія фундацыі дзеля адкрыцця духоўнай семінарыі былі зроблены княгіняй Магдаленай Радзівіл.

Адкрыццё беларускай каталіцкай семінарыі, дзе рыхтавалі святароў-беларусаў, было мерай, якая павінна была аслабіць анексіянісцкія памкненні з боку польскага духавенства. Менавіта польскае духавенства пасля адкрыцця ў Мінску рымска-каталіцкай кафедры на чале з епіскапам Лазінскім у чэрвені 1918 года выйшла на першы план барацьбы з беларускім нацыянальным рухам і ва Ўсходняй Беларусі. Па загаду біскупа Лазінскага ксёндз В.Гадлеўскі быў пераведзены ў Нясвіж, што аслабляла пазіцыі беларускага каталіцкага руху. 5 верасня 1918 года "тутэйшыя беларусы, – паведамляла "Вольная Беларусь", – зыходзіліся на пажагнальны вечар з ксяндзом Гадлеўскім. На вечары гаварылася, што беларусы-католікі заўсёды будуць лічыць ад'язджаючага пастыра сваім лепшым настаўнікам, які прышчапляў сваім духоўным сынам дух сапраўднага хрысціянскага дэмакратызму, замілавання да свае пакрыўджанае Бацькаўшчыны". Перад ад'ездам ксяндза В.Гадлеўскага на сваю новую пасаду ў Нясвіж да біскупа Лазінскага хадзіла беларуская дэлегацыя ў складзе Я.Лёсіка, А.Прушынскага і П.Алексюка. Яны ўзнялі пытанне аб тым, каб пакінуць у Мінску вікарыя катэдральнага касцёла, магістра багаслоўя ксяндза Гадлеўскага. Біскуп Лазінскі заўважыў, што ён цэніць працу Гадлеўскага, але не знаходзіць магчымым адмяніць сваю пастанову аб пераводзе.

8 верасня 1918 года, як паведамлялася ў дакументах, нейкая жанчына збірала ў Мінску подпісы пад прашэннем на імя біскупа Лазінскага аб недапушчэнні беларускай мовы ў касцёле. Але гэтая задума не знайшла многа прыхільнікаў. Рэктар Дамініканскага касцёла ксёндз Браніслаў Усас выступаў з амбона з цэлымі лекцыямі аб безгрунтоўнасці беларускага руху і яго шкодзе для каталіцызму, а таксама аб тым, што ніякай беларускай мовы ўвогуле не існуе.

Такім чынам, прыведзеныя вышэй факты сведчылі аб вельмі складаных умовах працы беларускіх святароў у той час.

Нягледзячы на цяжкасці, сапраўды пастырская работа беларускіх святароў знаходзіла самы жывы водгук і прыхільнікаў сярод мясцовага як праваслаўнага, так і каталіцкага духавенства. Толькі родная мова магла зрабіць зразумелымі народу пропаведзі і малітвы, і толькі яна магла разбудзіць у душах вернікаў лепшыя пачуцці і вышэй падняць маральнасць, што так упала за час першай сусветнай вайны.

**Валянцін МАЗЕЦ.**

*ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Максіма ГАРЭЦКАГА*

# СКАРБЫ ЯГО ЖЫЦЦЯ



Сёлетнія лютаўскія дні прайшлі ў Беларусі пад знакам Максіма Гарэцкага. І гэта як подых свабоды, адметнасць нашай незалежнасці і магчымасць аддаць належнае чалавеку, які самаадданa працаваў на ніве нацыянальнай культуры, прадбачачы і набліжаючы сённяшнія духоўныя перамены. Максім Гарэцкі — пісьменнік, крытык, літаратуразнаўца. "Ён належаў да так званай залатой пяцёркі, у якую ўваходзілі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля, — сказаў пра яго Іван Навуменка. — Нарэшце да іх далучаны Максім Гарэцкі, і збудаванне набыло закончаныя абрысы".

Доўгія гады мы быццам ведалі і чагосьці недагаворвалі, калі вымаўлялі імя Максіма Гарэцкага, ён быў "дазволены" і ўсё ж не зусім "добранадзейны". У краіне трагічнага лёсу такі ж трагічны лёс у лепшых, найбольш таленавітых яе сыноў. Таму што яны асабліва востра адчуваюць несправядлівасць, уціск, бяспраўе і шукаюць шляхі, каб вывесці свой народ на светлы прасцяг. Не быў выключэннем і Максім Гарэцкі.

У гэтыя юбілейныя дні прыйшлі да чытача "Скарбы жыцця" — апошні твор Максіма Гарэцкага, апублікаваны ў часопісе "Полымя" з каментарыямі дачкі пісьменніка Галіны Максімаўны. Мяркуючы па зместу твора, заўважае яна, напісаны ён не раней сакавіка 1935 года, магчыма і ў 1937. Аўтар вяртаецца ў дзяцінства і юнацтва, прыгадвае блізкіх яму людзей — малодшага брата Гаўрылу Іванавіча, сястру Ганну. І над усім гэтым імкнецца зразумець, што адбылося з ім і з многімі іншымі, якія, як і ён, трапілі ў няволю, прадчувае свой горкі безвыходны канец, задумваецца, а што там за даляглядам: "Усё жыццё праляцела як адзін дзень... Усё яно як на далоні. Восплачу і возрыдаю..."

Толькі цяпер, праз 55 гадоў пасля пакутніцкай смерці Максіма Гарэцкага ў засценках НКВД, з'явілася магчымасць удакладніць біяграфію пісьменніка, пашырыць уяўленне пра яго творчасць, дзякуючы "лістам з няволі", сталі вядомыя трагічныя "блуканні" М. Гарэцкага-выгнанніка. У самым росквіце жыццёвых і творчых сіл прайшоў ён шлях ад вязня мінскай турмы да ссыльнага ў горадзе Вятцы. Пасля гэтага два гады пражыў у г. Пясочная, удалечыні ад Беларусі, зноў быў арыштаваны і на гэты раз па прысуду "тройкі" расстраляны...

У Максіма Гарэцкага было вельмі мала часу, каб поўнасцю раскрыцца як пісьменніку і мастаку. У 21 год выйшаў у яго першы зборнік "Рунь", і ў гэты час пачынаецца першая сусветная вайна, ён трапляе на фронт. Чатыры гады страчаны, але для беларускай літаратуры яны не прапалі. Засталіся запіскі М. Гарэцкага "На імперыялістычнай вайне", якія параўноўваюцца з раманамі Рэмарка і Хэмінгуэя.



У акупіраванай палякамі Вільні ў пачатку 20-х гадоў М. Гарэцкі выкладае ў гімназіі беларускую літаратуру, урэшце, як "камуністычны агент", трапляе ў Лукішкі. Дзякуючы дзейнасці Гарэцкага-падпольшчыка, мы маем раман-хроніку "Віленскія камунары".



У якія б цяжкія абставіны ні трапляў гэты чалавек, дзе б ні даводзілася яму жыць, ён ніколі не пераставаў быць пісьменнікам-летапісцам, не пераставаў самаахвярна служыць беларускай ідэі і свайму краю. Нарадзіўшыся на Магілёўшчыне, у вёсцы Малая Багацькаўка, ён з дзяцінства быў зачараваны беларускімі краявідамі, гукамі матчынай мовы, народнай песняй. У дзень нараджэння Максіма Гарэцкага — 18 лютага ў Малой Багацькаўцы быў адкрыты дом-музей сям'і Гарэцкіх, збудаваны на падмурку старой сядзібы. Добра, што ёсць цяпер гэта хата, якая будзе нагадваць аб пакутным і слаўным лёсе магутнага дрэва роду Гарэцкіх, якія пакінулі глыбокі след у беларускай літаратуры і навуцы. Для Малой Багацькаўкі пачнецца цяпер новае жыццё. Сюды будуць прыязджаць усе, каго цікавіць лёс беларускай культуры, постаць Максіма Гарэцкага, карані яго фенаменальнага жыццёвага і творчага подзвігу. У хаце ўсё нагадвае тыя часы, калі жыла ў ёй дружная вялікая сям'я Гарэцкіх. І першымі наведвальнікамі былі аднавяскоўцы, якія, безумоўна, адчулі і будуць зведваць сваю еднасць са славутым земляком, бо жыццёвыя сілы ён атрымаў менавіта ад гэтай, іх агульнай зямлі, якая і сёння дапамагае ім перажываць нялёгкія часы. У музеі сабраны экспанаты, што расказваюць пра жыццё Максіма Гарэцкага па-за сценамі бацькоўскага дома, яго творы, што ўвайшлі ў залаты фонд беларускай літаратуры.



Пачатак жыццёвага шляху Максіма Гарэцкага быў звязаны з Горкамі. Тут скончыў ён у 1913 годзе каморніцка-агранамічнае вучылішча. Каб ушанаваць памяць пісьменніка, у Горкі прыехалі вядомыя беларускія літаратары, навукоўцы, мастацтвазнаўцы, артысты. У Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі адбыліся чытанні з удзелам вядучых вучоных і літаратараў.

У Беларускім акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбыўся вечар, які завяршыў юбілейныя ўрачыстасці, прысвечаныя 100-годдзю Максіма Гарэцкага. Тут сабраліся даследчыкі, знаўцы, прыхільнікі творчасці нашага вялікага земляка, усе тыя, хто разумее значэнне Максіма Гарэцкага для справы нацыянальнага адраджэння.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**ЗДЫМКІ Віктар СТАВЕР зрабіў у вёсцы Малая Багацькаўка ў дзень адкрыцця дома-музея Максіма ГАРЭЦКАГА.**





ЗАКОН АБ МОВЕ І БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

# КОЛЬКІ КАШТУЕ ДЗІЦЯЧАЯ КАЗКА?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— Ці можна ў вас набыць сёння кнігі, якія да нядаўняга часу былі пад забаронай?

— Калі ўзяць нашу літаратурную спадчыну, кнігі па гісторыі Беларусі, тое, што раней не выдавалася ўвогуле, дык нічога гэтага ў нас і цяпер няма. Мы заказалі дзве тысячы экземпляраў "Кароткай гісторыі Беларусі" Ластоўскага, але наш заказ не быў выкананы. Сказалі, што "ўрэзалі" тыраж. Ігнатоўскага ў нас таксама няма. Зараз даюць па сто экземпляраў, а мы заказвалі тры тысячы.

— Як вы ставіцеся да таго, што цэны на дзіцячыя кнігі так імкліва растуць?

— Са шкадаваннем! У школах і дзіцячых садках пачалі вывучаць родную мову, і бацькі ўсё часцей просяць беларускія кнігі. А ў нас іх няма, а калі з'яўляецца нешта, дык не кожны можа набыць. Напрыклад, п'есы Макаёнка з серыі "Школьная бібліятэка" ў мяккай вокладцы каштуюць 30 рублёў 50 капеек.

Беларуская мова абвешчана дзяржаўнай, але людзі не могуць набыць самага неабходнага, каб пачаць яе вывучаць. Няма тлумачальных, руска-беларускіх і беларуска-рускіх слоўнікаў, падручнікаў, дапаможнікаў. Як жа можна пераводзіць на беларускую мову справаводства, ды і ўвогуле патрабаваць ведання мовы, не забяспечыўшы людзей самым неабходным для яе вывучэння?

Вось такія разважанні я пачула ў кнігарні. І паколькі пытанняў засталося многа, вырашыла звярнуцца да дырэктара выдавецтва "Юнацтва" Валянціна Лукшы, спадзеючыся там атрымаць адказы і тлумачэнні. Згадзіцеся, прыгожая, яркая, цікавая дзіцячая кніжка — найбольш просты і натуральны шлях да таго, каб беларуская мова з цягам часу стала не толькі дзяржаўнай, але па-сапраўднаму любімай і роднай.

— Выдавецтва "Юнацтва", — пачаў Валянцін Лукша, — існуе ўжо больш 12 гадоў. За гэты час мы выдалі 1 400 назваў кніг, тыраж якіх склаў больш за 120 мільёнаў экземпляраў. Мы лідзіравалі ў экспарце кніг: нашы беларускія выданні ішлі ў 110 краін свету. У 1991 годзе, з пачаткам "актыўнай перабудовы", дзіцячае кнігавыданне захлынулася. Летась мы выпусцілі 73 кнігі пры плане 140, агульны тыраж склаў 5 мільёнаў 731 тысячу экземпляраў пры плане 9 мільёнаў. На беларускай мове выдадзена 46 з 73 назваў.

— А якія перспектывы?

— Думаю, будзе яшчэ горш.

— Колькі прыблізна будзе каштаваць кніга праз паўгода?

— Цяжка загадваць, але можна ўявіць, што беларускамоўная кніга нават пры ўсіх датацыях (а сёння яны складаюць 75 працэнтаў) будзе каштаваць рублёў пяцьдзесят, а добра ілюстраваная, каляровая, на афсетнай паперы можа "пацягнуць" на 200, 300, не выключаю, што і на 500 рублёў. Гэта значыць, што масавы чытач кнігі не атрымае. Тыражы рэзка ўпадуць, таму што кніга стане недаступнай і кнігагандлю, і звычайнаму пакупніку.

— Якой вы бачыце будучыню свайго выдавецтва?

— У творчым плане — аптымістычнай. Мы здалі ўжо ў друк першыя два тамы дзесяцітомнай бібліятэкі беларускай дзіцячай літаратуры. Такога выдання ў рэспубліцы ніколі раней не было. Пачынаем выпуск трыццацітомніка сусветнай дзіцячай літаратуры на беларускай мове, дарэчы, пяць тамоў таксама ўжо здадзены ў друк. Мы завяршаем пятнаццацітомнае выданне дзіцячай літаратуры народаў былога СССР — краіна развалілася, а літаратура засталася. Так што творчыя планы ў нас цікавыя. Песімізм жа мой звязаны з магчымасцямі рэалізаваць усё гэта. Сёння мы карыстаемся толькі той паперай, што засталася з мінулага года, ну, сёе-тое бяром з дзяржрэзерву. Але ж гэта мізэр, ї такая папера падыходзіць толькі для чорна-белых работ. Значыць, для самых маленькіх чытачоў кніг не будзе. Калі не так даўно цана адной тоны афсетнай паперы складала 650 рублёў, сёння за яе даводзіцца плаціць 150 тысяч. А за паперу люкс — 250 тысяч рублёў! Так што застаецца працаваць на перспектыву. Да таго ж, у нас вельмі складаныя адносіны з паліграфістамі, бо калі ёсць папера, і здаецца, што ўжо можна кнігу друкаваць, аказваецца, што яе не друкуюць, і кожны месяц некалькі назваў выкрэсліваюць з плана. Паліграфісты аддаюць перавагу таму, што прыносіць ім большы прыбытак.

— У святле ўсяго сказанага, які, на ваш погляд, лёс чакае Закон аб дзяржаўнай мове?

— Закон прыняты правільны, але эканамічныя рычагі цягнуць яго назад, не даюць разагнацца. На жаль, гэта дарыначны закон. Каб нашы дзеці загаварылі на роднай мове, бацькі ім павінны чытаць на ёй казкі з самага маленства. А паколькі ўсім вядома, што дзіця з-пад палкі нічога рабіць не прымусіш, то і беларуская кніжка павінна быць добрай, прыгожай, каляровай. А такая кніжка надта дарагая. І заўважце яшчэ адно: у Мінску ёсць магазін навукова-тэхнічнай кнігі, ваеннай, сельскагаспадарчай, быў магазін грамадска-палітычных выданняў. Але ні ў рэспубліцы, ні ў амаль двухмільённай сталіцы няма ніводнага спецыялізаванага магазіна дзіцячай кнігі. У нас былі планы па стварэнню такога магазіна, пры якім існаваў бы тэатр літаратурных герояў, пастаянная выстава кніжнай графікі, дзіцячае кафэ і многае іншае. Але рынак зрабіў гэта немагчымым. Барані Божа нас ад таго, каб загаварыць, забалбатаць ідэю вяртання да роднай мовы, да сваіх каранёў. Калі людзі зразумеюць, што нічога з гэтага не атрымалася, што ўсё было толькі на словах, яшчэ раз вярнуцца да яе будзе проста немагчыма.

Днямі яшчэ раз пацікавілася асартыментам камерцыйных кіёскаў. Даволі часта там сустракаецца падручнік па маркецінгу, папулярным стала "Лячэбнае галаданне" Брэга. Што ж, калі есці няма чаго, будзем галадаць, хаця б па навуцы. Знайшла і "старых знаёмых" — я ўжо даўно здзіўлялася, куды ж знікла тое мора партыйнай і грамадска-палітычнай літаратуры, якое некалі "затаплівала" нашы кніжныя магазіны. Вось і пачалі гэтыя кнігі "ўсплываць", набыўшы другое жыццё ў выглядзе помнікаў эпохі, і тое, што раней каштавала капейкі, паступова зраўняецца ў цане з прыгодамі, жахамі і фантастыкай. Што датычыцца збору твораў Сталіна — яго можна набыць зараз толькі за валюту. Так, цэны растуць, і зараз задавальненне прачытаць, напрыклад, Сцівена Кінга абыдзецца ў 250—300 рублёў. Самая танная кніга, якую давялося ўбачыць за апошні час вандровак па кніжных магазінах, двухтомнік Лермантава, які каштаваў 6 рублёў 70 капеек. Адзіным беларускім пісьменнікам, здольным канкурыраваць з сентыментальнымі і дэтэктыўнымі раманамі, кніжнымі камерсантамі прызнаны Уладзімір Караткевіч з "Чорным замкам Альшанскім" і "Дзікім паляваннем караля Стаха" на рускай мове. Ніводнай кнігі, напісанай па-беларуску (тым больш, дзіцячай), я там не ўбачыла.

У канцы нашай гутаркі Валянцін Лукша сумна сказаў: "Паліграфісты зараз гавораць новым кніжным бізнесменам: "Пачакайце яшчэ трошкі, дзяржаўнае кнігавыданне не зможа доўга вытрымліваць рыначнага ціску і хутка зусім памрэ". Яны маюць рацыю, бо ў Прыбалтыцы менавіта так ужо амаль што адбылося..."

Калі гэта прароцтва збудзецца, наўрад ці "Эрыдан" ці іншае прыватнае выдавецтва будзе друкаваць Цішку Гартнага, Васіля Вітку ці Кузьму Чорнага. Што ж, мяркуючы па ўсім, нам таксама застаецца толькі трошачкі пачакаць, пакуль пад размовы аб выкананні Закона аб дзяржаўнай мове і лозунгі аб адраджэнні нацыянальнай самасвядомасці канчаткова не загіне наша беларуская культура, бо замовамі, абвяшчэннямі, бадзёрымі заклікамі і эканамічна не падмацаванымі загадамі зрабіць справу нельга, а загубіць яе — вельмі проста. Шкада, калі час зноў пацвердзіць гэту прапісную ісціну.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

ПРЭМ"ЕРЫ



**Прэм'ерай парадаваў гледачоў Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі. Ён паказаў два аднаактовыя балеты — "Штраўсіяна" і "Іспанскі дывертысмент".**

**"Штраўсіяна" — спектакль на музыку вялікага кампазітара ў харэаграфіі славутага балетмайстра В. Бурмейсцера — пастаўлена ў Мінску Наталляй Васкрасенскай, а "Іспанскі дывертысмент" — балетмайстрам Нінай Дзячэнка. Цудоўныя касцюмы да спектакляў створаны Кацярынай Булгакавай і Людмілай Ганчаровай.**

**Музыка зачароўвае, а ў спалучэнні з выдатнай пастаноўкай балет пакідае адчуванне святла і хараства.**

**НА ЗДЫМКУ: Маха і Тарэра са спектакля "Іспанскі дывертысмент".**

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ

**"Крыніца памяці" — так называецца выстава графікі, фотаработ і паштовак, прадстаўленая ў Дзяржаўным музеі Беларусі. Выстава вяртае нашу памяць у мінулае. Прымушае больш пільна ўглядзецца ў тое, што нам ад яго засталося, і нагадвае страчанае.**

**Г. Ліхтаровіч адкрывае ў сваіх фотаработах яшчэ раз архітэктуру Нясвіжа, Жыровічаў, Мінска. Графічныя працы У. Басалыгі — гэта ўласны погляд аўтара на помнікі дойлідства Беларусі. Асаблівую цікавасць, магчыма, выклічуць паштоўкі з вывай гарадоў Беларусі ў XIX стагоддзі. Можна пабачыць, якім быў калісьці Чырвоны касцёл. Убачыць гарадскі тэатр і мячэць у Мінску. Праўда, некалькі засмучае, што надпісы на паштоўках вельмі цяжка разгледзець. А часам і зразумець: некаторыя з іх зроблены на польскай мове без перакладу.**

**НА ЗДЫМКУ: работа У. БАСАЛЫГІ "Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку".**



НА МАСТОЎШЧЫНЕ

# МУЗЕЙ-ЮБІЛЯР

Гудзевіцкі літаратурна-этнаграфічны музей адзначыў сваё 25-годдзе. Ён быў адкрыты да 130-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага як школьны літаратурны музей.

Сёння гэта 10 экспазіцыйных залаў, дзе размешчаны матэрыялы па літаратурным краязнаўстве, этнаграфіі, аддзел лёну і народнага ткацтва, аддзел народнай медыцыны. За час існавання музея яго наведала больш за 100 тысяч экскурсантаў амаль з усіх краін СНД, Польшчы, Германіі, Францыі, Галандыі, Англіі, Аўстраліі. І ў кожнага з наведвальнікаў, мусіць, у душы засталіся цёплыя ўспаміны пра музей, яго стваральнікаў.

З 1966 да 1988 года як да заснавання музея, так і пры ім гуртком беларускай літаратуры выдаваўся літаратурна-краязнаўчы альманах "Праменьчык". За гэтыя гады іх выйшла 14 нумароў.

Па матэрыялах Гудзевіцкага музея ў 1988 годзе выйшла брашура "Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей". Вучні сярэдняй школы знайшлі і сабралі цікавы матэрыял пра М. Арла (Сцяпана Пятэльскага). У 1991 годзе выдадзены зборнік вершаў М. Арла "Лірнік".

Вучні Гудзевіцкай школы ўдакладнілі год смерці, месца нараджэння і жыцця земляка Міхася Явара (сапраўднае прозвішча якога Міхаіл Карась) — таленавітага паэта і майстра, які пражыў кароткае, але змястоўнае жыццё. Устаноўленыя звесткі далі падставу беларускай энцыклапедыі змясціць артыкул пра М. Явара.

**П. ЖЭБРАК.**

*СУСТРЭЧА З ЦІКАВЫМ ЧАЛАВЕКАМ*

# НАПЕРАД, ТОЛЬКІ НАПЕРАД!

На пачатку 1993 года мінчане пазнаёміліся з цікавай госцяй з ЗША – Джанет Кёстэр, якая прыехала на Беларусь па запрашэнню Мінскай рэлігійнай абшчыны бахаістаў.

Джанет Кёстэр – прадстаўніца амерыканскага руху зялёных, член амерыканскай абшчыны бахаістаў. Яе цікавяць пытанні аховы навакольнага асяроддзя: паветра, вады, глебы, расліннага і жывёльнага свету. Асабліва яе хвалююць як у сябе ў ЗША, так і на Беларусі, у Расіі і іншых краінах вострыя праблемы экалогіі, у тым ліку вынікі чарнобыльскай трагедыі, захаванне возера Байкал, Азоўскага мора і іншыя.

Яна прыехала на Беларусь 17 сакавіка 1992 года. Потым выйшла з Оршы Віцебскай вобласці і ў адзіночку з рукзаком за плячамі дайшла да Смаленска. Потым працягвала ісці пешшу праз Маскоўскую, Уладзімірскую, Ніжагародскую вобласці, Чувашскую, Татарскую, Башкірскую рэспублікі, Чэлябінскую, Свярдлоўскую, Цюменскую, Омскую, Новасібірскую, Кемераўскую вобласці і Краснаярскі край. 27 кастрычніка 1992 года яна прыйшла ў Краснаярск, perадолеўшы каля шасці тысяч кіламетраў.

Што прымусіла чалавека, ды яшчэ жанчыну, у наш век аўтатранспарту, паяздоў, самалётаў адправіцца па незнаёмай краіне, менавіта пешшу і ў адзіночку? Такі паход патрабуе вынослівасці і мужнасці.

Пра ўсё гэта расказала сама Джанет Кёстэр, прыехаўшы пасля свайго працяглага падарожжа зноў на Беларусь і сустрэўшыся з мінчанамі ў гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы. Цікавасць да гэтай сустрэчы была вялікая.

"Дарагія сябры (Джанет пачала свой аповяд на рускай мове, якою авалодала за сем з паловаю месяцаў свайго паходу), пачынаючы з 1986 года, маім моцным жаданнем было прайсці пешшу па Еўропе і Савецкім Саюзе. Я вырашыла пачаць з Беларусі і Расіі. Маё цяперашняе паломніцтва – працяг паходу, які пачаўся ў 1990 годзе ад Каліфорніі да Нью-Йорка. Галоўнай задачай яго было – прыцягнуць увагу людзей да экалагічнага становішча ў сваёй краіне і паказаць, што кожны можа зрабіць для аховы навакольнага асяроддзя.

Я веру, што дабрабыт краіны і асобы заключаецца ў магчымасці людзей дзяліцца адзін з адным духоўнымі набыткамі і ўнутранымі багаццямі, а не ў падліках, колькі рэсурсаў Зямлі мы можам скарыстаць і растраціць на душу насельніцтва. У свой час словы прэзідэнта Джона Кенэдзі зрабілі на мяне моцнае ўражанне. Ён сказаў: "Не пытайся, што твая краіна можа зрабіць для цябе, а што ты можаш зрабіць для тваёй краіны". Перафразіруючы гэтыя словы, магу сказаць: "Не пытайся, што я магу ўзяць ад Зямлі. Але спытайся, што я магу даць Зямлі".

17 сакавіка 1992 года я пачала з Оршы самы доўгі паход за ўсё маё жыццё. Я прайшла каля шасці тысяч кіламетраў па вялікіх і малых дарогах. На сваім шляху сустрэла сотні людзей розных прафесій, і амаль заўсёды гэта былі цудоўныя, клапатлівыя людзі, якія прымалі мяне, кармілі, паілі, вадзілі ў лазню, укладвалі спаць, дзяліліся са мною самым патаемным. Я спынялася ў хрысціян, мусульман, атэістаў, бахаістаў і іншых, але я прыехала не для таго, каб схіляць людзей да якой-небудзь рэлігіі. Кожны чалавек павінен знайсці свой уласны шлях да Бога. Бо мэта майго паходу – натхніць простых людзей на актыўны ўдзел у стварэнні спрыяльных умоў для мірнай, экалагічна абароненай нашай з вамі будучыні.

Калі я ішла па аўтамагістралі, людзі сігналілі і махалі мне, некаторыя спыняліся і прапаноўвалі падвезці, давалі мне грошы і ежу. Я дзякавала, але прытрымлівалася прынцыпу, што я павінна ісці толькі пешшу. Хадзьба дапамагае атрымаць энергію і здароўе ад прыроды.

Я веру, што якасць нашага жыцця палепшыцца, калі мы ўсвядомім, што ўсе мы – адна чалавечая сям'я і што разам мы павінны змагацца за чыстае паветра, ваду і глебу".

Джанет Кёстэр цэлую гадзіну адказвала на шматлікія пытанні, а потым адбылася ажыўленая дыскусія.

Я прысутнічаў на гэтай сустрэчы і, як многія іншыя, быў здзіўлены духоўнай сілай жанчыны.

З Мінска яна ад'язджала ў Кіеў, адтуль у сакавіку 1993 года вылеціць ва Уладзівасток і пачне другі этап свайго экалагічнага паходу да Краснаярска, а гэта таксама шэсць-сем тысяч кіламетраў.

На сваім доўгім шляху Джанет Кёстэр здолела многім "адкрыць вочы" і мэтанакіраваць усіх, з кім яна кантактавала, на ахову роднай прыроды. Без сумнення, яна валодае выдатным дарам асветніка. Дзякуючы яму, яна здолела зрабіць даступнымі нават для малападрыхтаванага чалавека многія экалагічныя праблемы. Яна не толькі "адкрыла вочы", але і пашырыла экалагічную свядомасць людзей.

Наперад, наперад, толькі наперад кліча нас Джанет Кёстэр. І няхай сённяшняе пакаленне адкрые новую старонку ў справе аховы навакольнага асяроддзя.

**Аляксандр КУРСКОЎ, кандыдат біялагічных навук.**





**Шырокі дыяпазон інтарэсаў дырэктара Горацкага Дома рамёстваў Сяргея Квача. Малады майстар захапляецца жывапісам, дрэваапрацоўкай, керамікай. Сур'ёзна вывучае Сяргей Іванавіч традыцыі народнай творчасці. Грунтуючыся на іх, ён і сам вырабіў нямала своеасаблівых твораў.**

**НА ЗДЫМКУ: народны майстар Сяргей КВАЧ.**

## ЯШЧЭ АДНО ФАКСІМІЛЬНАЕ...

Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Беларускае таварыства ў Гданьску, Беларускае таварыства архівістаў і кааператыўна-выдавецкае таварыства "Адраджэнне" ажыццявілі выпуск "Беларуска-расейска-лацінскага батанічнага слоўніка", складзенага Зоськай Верас.

Выданне дакладна такое, якое выдала ў 1924 годзе ў Вільні газета "Голас Беларуса". Слова нястомнай адраджэнкі, сказанае столькі гадоў назад у прадмове, не страціла свайго значэння: "...чалавеку цікаваму, знаёмаму з назовамі раслінаў у ягонай роднай мове і то з назовамі не штучнымі, выдуманымі, а чыста народнымі, кожная раслінка, кожнае зеллейка раскажа не толькі дэталі свайго ўласнага жыцця, гісторыю свайго роду, але ж таксама напомніць аб той ролі, якую яно іграе ў жыцці нашых сялян, у іх медыцыне, чарах і варожбах. Часта адно характэрнае названне раскрые перад нашымі вачыма ўсю паэтычнасць і багатую фантазію нашага народа".

Шкада, што наклад факсімільнага выдання слоўніка невялікі – усяго 500 паасобнікаў. Ды тым большая яго каштоўнасць...

## КНІГА, НЕАБХОДНАЯ ЛЮДЗЯМ

У выдавецтве "Навука і тэхніка" выйшла 3-е дапрацаванае і дапоўненае выданне кнігі Фёдара Янкоўскага "Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы". Кніга гэтая вельмі дарэчы настаўнікам, студэнтам філалагічных факультэтаў, навукоўцам, пісьменнікам і наогул шырокаму колу чытачоў, цікаўных да беларушчыны. Удава пісьменніка Соф'я Янкоўская з гэтай нагоды даслала ў рэдакцыю "ЛіМа" ліст з выказваннем удзячнасці дырэктару выдавецтва Ф.Савіцкаму, загадчыку рэдакцыі Л.Пятровай, рэдактару Н.Тарасевіч, мастаку В.Саўчанку за гэтае цудоўна аформленае, прыгожае выданне, вельмі патрэбнае людзям. Відаць, пад гэтым маглі б падпісацца многія.

## "БЕЛАРУСЬ ТРЭБА ПАДЫМАЦЬ!"

Гэтыя словы Каруся Каганца сёння, бадай, як ніколі актуальныя. Нездарма яны падказалі назву вечарыны, прысвечанай 125-годдзю з дня нараджэння пісьменніка. У Доме літаратара сабраліся тыя, каму дарагі талент гэтага выдатнага драматурга, паэта, перакладчыка. Вяла вечар зямлячка пісьменніка, журналістка газеты "Звязда" А.Цixановіч. Выступілі пісьменнікі, навукоўцы М.Ермаловіч, Я.Саламевіч, М.Біч, Г.Сурмач, Л.Акаловіч, А.Грыцкевіч.

Артур Вольскі прачытаў верш, прысвечаны К.Каганцу.

Творы юбіляра гучалі ў выкананні А.Падабеда і артыста Быхаўскага народнага тэатра В.Ермаловіча. Адбылася прэм'ера песень "Салавейка мілы" і "Ой, Нёман цячэ, Нёман жыве", напісаных Г.Смоляк на вершы К.Каганца.


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку"
Тыраж 5 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 308.
Падпісана да друку 1.03.1993.